# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 18 жніўня 1994 года | № 86 (10786) | Цана 200 руб.


## «ЛЮДЗІ НАС ЗРАЗУМЕЛІ»

Днямі адбылася чарговая сустрэча членаў новага Кабінета Міністраў рэспублікі з журналістамі. Праходзіла яна пад старшынствам прэм"ер-міністра Рэспублікі Беларусь М.Чыгіра. На ёй асвятляліся жыццёва важныя праблемы. У прыватнасці, выдача грашовай кампенсацыі насельніцтву, правядзенне ўборкі, падрыхтоўка да зімовага перыяду. На прэс-канферэнцыі адзначалася, што павышэнне цэн на хлеб, малако і малочныя вырабы было "ўспрынята людзьмі з разуменнем". Спісы тых, хто павінен атрымаць кампенсацыю, складзены. Праблема ўзнікла з грашовай наяўнасцю. Напрыклад, па шэрагу раёнаў Мінскай вобласці. Аднак, як адзначалася на прэс-канферэнцыі, робяцца ўсе захады, каб зняць яе.

Шмат клопатаў і з сёлетнім ураджаем. Як адзначыў другі намеснік кіраўніка Кабінета Міністраў У.Гаркун, чакаецца недахоп каля паўтара мільёна тон збожжа. Зараз прапрацоўваецца пытанне набыцця яго за межамі Беларусі.

Было закранута і такое архіважнае пытанне, як забеспячэнне рэспублікі энерганосьбітамі. Заключаны дагавор на пастаўку 4 мільёнаў тон клірынгавай нафты, за якую трэба заплаціць звыш 300 мільёнаў долараў ЗША. Разлік за пастаўленыя рэсурсы будзе залежаць ад таго, наколькі эфектыўна будуць працаваць прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі.

На прэс-канферэнцыі ішла гаворка пра шляхі выхаду з эканамічнага крызісу, узаемаадносіны з Міжнародным валютным фондам і іншыя праблемы.

Члены Кабінета Міністраў рэспублікі адказалі на шэраг пастаўленых пытанняў.

*(Наш кар.).*

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## ПАВЫШЭННЕ ЦЭН ЗАКРАНУЛА ЎСІХ, ІНДЭКСАЦЫЯ — ТАКСАМА

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, чарговае павышэнне цэн на малочныя і хлебабулачныя вырабы, што закранула абсалютна ўсіх жыхароў рэспублікі, дзяржава паспрабуе змякчыць. Некаторым катэгорыям грамадзян да 20 жніўня павінна быць выплачана кампенсацыя за падаражэнне гэтых прадуктаў харчавання. Ужо цяпер праводзяцца масавыя выплаты найбольш неабароненым слаям насельніцтва. Як сказаў віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, без увагі ўрада не застануцца і ўсе астатнія грамадзяне рэспублікі. Іх даходы будуць праіндэксаваны за жнівень у адпаведнасці з дзеючым у Беларусі законам. Хоць памеры гэтых выплат яшчэ вызначаюцца, мяркуецца, што яны будуць значныя. Але апошняе слова — за кампетэнтнымі органамі.

## КАЛІ ЗБІРАЦЬ БРУСНІЦЫ І ЖУРАВІНЫ

Распараджэннем выканкома абласнога Савета дэпутатаў на тэрыторыі вобласці ўстаноўлены тэрміны збору ягад: **брусніц — з 20 жніўня, журавін — з 10 верасня.** Зроблена гэта з мэтай рацыянальнага выкарыстання каштоўных дароў лесу. Аблспажыўсаюзу, іншым нарыхтоўчым арганізацыям не дазволена прымаць названую прадукцыю ў насельніцтва да вызначаных тэрмінаў. Мінскае вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне, упраўленне ўнутраных спраў аблвыканкома, абласны камітэт па экалогіі і выканкомы раённых Саветаў дэпутатаў абавязаны забяспечыць кантроль за выкананнем прынятага распараджэння.

■ Б'ём трывогу

## ПЕРАСУШКА–НЕДАСУШКА

По вобласці дзяржаве прададзена ўжо больш як 30 працэнтаў збожжа да таго, што павінна быць рэалізавана па дагаворах. Цяпер вельмі востра паўстае пытанне наконт яго якасці. Аналіз першых партый сведчыць аб тым, што ў цэлым якасць зерня высокая. Менавіта такое збожжа прадаюць калгасы і саўгасы Клецкага, Маладзечанскага, Нясвіжскага і некаторых іншых раёнаў, што забяспечвае здатчыкам высокую надбаўку да цэн. Збожжа новага ўраджаю, якое паступае на перапрацоўчыя прадпрыемствы, у асноўным мае вільготнасць 12,1—14,3 працэнта. Аднак некаторыя гаспадаркі пры спрыяльных умовах надвор"я прапускаюць збожжа праз сушылкі і здаюць перасушаным. Так, калгас імя Чкалава Клецкага раёна паставіў на Клецкі камбікормавы завод тры тоны жыта вільготнасцю 8 працэнтаў, калгас "Чырвоная Беларусь" Барысаўскага раёна здаў на Барысаўскі камбінат хлебапрадуктаў 60 тон жыта вільготнасцю 9 працэнтаў, калгас "Мсціж" — 25 тон ячменю вільготнасцю 10 працэнтаў. Перасушанае зерне аўса і збожжасумесей здавалі на Барысаўскі камбінат хлебапрадуктаў калгасы "Беларусь", "Вешаўскі", "Дзмітравічы", "Паплавы" Бярэзінскага раёна. Вядома, што з такога збожжа высакаякасны хлеб не спячэш.

Значныя страты гаспадаркі нясуць пры здачы збожжа, вільготнасць якога перавышае базісную. Напрыклад, калгас "Пухавічы" Пухавіцкага раёна паставіў на Пухавіцкі камбінат хлебапрадуктаў 5,3 тоны жыта вільготнасцю 22,5 працэнта. У выніку гаспадарцы недазалічана 382 кілаграмы зерня на суму 573 тысячы рублёў і дадаткова знята за сушку 1 мільён 557 тысяч рублёў. Саўгас "Гарадок" Уздзенскага раёна паставіў 13 тон зерня вільготнасцю 23,7 працэнта. Гаспадарцы недазалічана 1.207 кілаграмаў зерня на суму 1 мільён 810 тысяч рублёў і ў 4 мільёны 924 тысячы рублёў абышліся паслугі за сушку.

Няякаснае зерне пастаўляюць на Мінскі камбінат хлебапрадуктаў гаспадаркі Лагойскага раёна. З калгаса "1 Мая" за пастаўку 34 тон жыта вільготнасцю 19 працэнтаў за сушку знята 2 мільёны 468 тысяч рублёў, калгасу імя К.Маркса за пастаўку 17 тон жыта, якое мела 7,8 працэнта прымесей пустазелля, недазалічана 1.156 кілаграмаў зерня на суму 1 мільён 734 тысячы рублёў і дадаткова за падпрацоўку яго знята 1 мільён 760 тысяч рублёў.

Згодна з патрабаваннямі тэхналагічнага працэсу нарыхтоўкі збожжа розніца ў тэмпературы здаваемага зерня і навакольнага паветра не павінна перавышаць 10 градусаў. Справа ў тым, што калі высыпаць гарачае збожжа ў зерне нармальнай тэмпературы, то ўтвараецца ачаг самасагравання. Гэтага не хочуць разумець спецыялісты калгасаў імя Калініна, "Прагрэс", "Рассвет", саўгаса "Лясное"" Капыльскага раёна, калгасаў "Нёман", "Чырвоны сцяг" Стаўбцоўскага, адкуль паступала зерне з тэмпературай 47—53 градусы.

Шмат непаразуменняў узнікае на прыёмных пунктах з-за заражанасці збожжа. Нярэдка да адпраўкі дзяржаве яго размяшчаюць у складах, якія не прайшлі фумігацыю /не былі пратручаны/. Гэтыя прэтэнзіі трэба прад"явіць перш за ўсё калгасам "1 Мая", "Чырвоны Кастрычнік", "Праўда", "Нёман", "За мір", "Чырвоны партызан", імя Леніна Стаўбцоўскага, калгасам "Прагрэс", "Іскра Леніна", імя Суворава Капыльскага раёнаў. Пастаўлялася заражанае збожжа з калгасаў "Свір" Мядзельскага і "Шлях Леніна" Лагойскага раёнаў.

*Валянціна РАДКЕВІЧ,*
*намеснік начальніка абласной дзяржзбожжаінспекцыі.*



*Элітнае насенне збожжавых культур вырошчваюць у эксперыментальнай базе "Натальеўск" Чэрвеньскага раёна. Гэты вельмі каштоўны насенны матэрыял атрымліваюць насенняводчыя гаспадаркі многіх раёнаў вобласці і рэспублікі.*

*НА ЗДЫМКУ: камбайнер Мікалай **Няхай** і памочнік Аляксей **Логвін**.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД СУПРАЦЬ

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне пачаць разгляд па справе "Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь норм Кодэкса законаў аб працы, якія прадугледжваюць магчымасць скасавання працоўнага дагавора ў сувязі з дасягненнем пенсіённага ўзросту".

Каменціруючы па просьбе карэспандэнта Белінфарма гэтае рашэнне, намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда рэспублікі Валерый Ціхіня паведаміў аб тым, што ініцыятарам пачаць разгляд па гэтай справе выступіў сам Канстытуцыйны суд у сувязі са шматлікімі скаргамі грамадзян. На думку Валерыя Ціхіні, цяперашняе працоўнае заканадаўства дае магчымасць работадаўцу звальняць людзей, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, на дыскрымінацыйных асновах, а гэта супярэчыць Канстытуцыі, якая гарантуе права грамадзян рэспублікі на працу. Намеснік старшыні таксама лічыць, што наяўнасць такіх дыскрымінацыйных норм у працоўным заканадаўстве рэспублікі супярэчыць нормам міжнароднага права.

*БЕЛІНФАРМ.*

## "ЗАЙЧЫК" ІМКНЕЦЦА ДА НАМІНАЛУ

Як вядома, па рашэнню Кабінета Міністраў і праўлення Нацыянальнага банка разліковыя білеты, якія называюць ва ўжытку "зайчыкамі", будуць да 20 жніўня прыведзены ў адпаведнасць з іх наміналам. Дэнамінацыя прадугледжвае пералік у бок змяншэння ў 10 разоў актываў і пасіваў, усіх відаў цэн і тарыфаў, а таксама паступленняў і даходаў насельніцтва. Гаворачы аб гэтым на прэс-канферэнцыі для журналістаў 16 жніўня, першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Мікалай Кузьміч падкрэсліў, што гэтая акцыя праводзіцца з мэтай спрашчэння разлікаў. Ён напомніў прысутным гісторыю паяўлення ў рэспубліцы беларускіх разліковых білетаў, якія адыгралі сваю станоўчую ролю ў выніку набыцця Беларуссю суверэнітэту і ўвядзення Расіяй нацыянальнай валюты. Паводле слоў Мікалая Кузьміча, пры адпаведным кантролі праводзімая дэнамінацыя не закране інтарэсаў грамадзян рэспублікі, а цэны, уключаючы прыватны гандаль і паслугі, будуць таксама прыведзены ў адпаведнасць. Апошнія, падпарадкоўваючыся законам рынку, не дазволяць сабе пакінуць цэны ранейшымі, хоць на базарах яны і могуць нейкі час заставацца больш высокімі ў параўнанні з дзяржаўнымі. Акругленне цэн будзе праводзіцца наступным чынам: да пяці капеек — у бок змяншэння, а звыш — у бок павелічэння да адзінкі. Не адаб'ецца маючая адбыцца дэнамінацыя і на курсе беларускага рубля, паколькі на яго робяць уплыў зусім іншыя фактары. Не вырашае яна і праблемы наяўнасці. Для гэтага патрабуецца як мага больш тавараў і паслуг.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ДУЭТАМ — ВЕСЯЛЕЙ

Дружная сям"я... Такія яшчэ, аказваецца, не зніклі. Нават у наш складаны час. Гэта лішні раз пацвердзіў конкурс сямейных дуэтаў, які праводзілі работнікі нясвіжскіх раённых Дома культуры і метадычнага цэнтра.

Ён выявіў шмат цікавага. Скажам, засведчыў, што сямейныя пары не развучыліся выходзіць з канфліктных сітуацый. Не страцілі яны і здольнасці спяваць, жартаваць.

У конкурсе прынялі ўдзел шэсць дуэтаў. Найбольш дружнай і прыгожай аказалася сям"я Бука. Муж і жонка разам ужо дванаццаць гадоў. У іх растуць двое дзяцей. Таццяна працуе медсястрой у санаторыі "Нясвіж", Дзмітрый — інжынер.

Конкурс сямейных пар праходзіў у рамках Міжнароднага года сям"і.

*Раіса ХВІР.*
*г.Нясвіж.*

## А ЕХАЦЬ ТРЭБА...

З першага дня другой дэкады жніўня павысіўся кошт вырабаў з нафты. Дзяржаўныя цэны на бензін практычна зраўняліся з камерцыйнымі. Літр гаручага маркі А-76 каштуе цяпер 4.560 рублёў, а за літр бензіну маркі А-93 давядзецца плаціць 5.220 рублёў.

Давядзецца раскашэліцца і тым, хто карыстаецца прыгарадным транспартам. З 20 жніўня і тут узнімуцца тарыфы. На рэгулярных рэйсах у аўтобусах агульнага карыстання кошт аднаго кіламетра складзе 120 рублёў, а ў аўтобусах з мяккімі сядзеннямі — 140 рублёў. Што ж, давядзецца плаціць, калі ехаць трэба.

*/Наш кар./.*

## СЕ ЛЯ ВІ, СЯЛЯВА!

Возера Сялява, што ў Крупскім раёне, — адно з найпрыгажэйшых у Беларусі. Яно займае плошчу 15 квадратных кіламетраў, сярэдняя глыбіня — 6,3 метра. Даўжыня берагавой лініі — 40 кіламетраў. Гэта пясок уперамешку з галькай. Дарэчы, возера праточнае, у яго ўпадаюць рэкі Ракітаўка і Высокая.

Адным словам, адпачыць тут можна цудоўна. Цяпер, калі пуцёўка ў санаторый ці дом адпачынку далёка не кожнаму па кішэні, на Сляву пачалося нашэсце. У сувязі з гэтым выканком мясцовага Кастрычніцкага сельсавета ў трох зонах адпачынку — "Шып", "Высокі бераг" і "Залаты рог" — прыняў рашэнне з прыязджаючых браць плату за "паслугі". Ці кусліваыя цэны? Чалавек, які пажадаў правесці дзень на возеры, вымушаны аддаць 600 рублёў, з устаноўкай палаткі — удвая больш. А калі прыехаў на аўтамашыне, выкладвай 2.400 рублёў.

Выручаныя сродкі пойдуць на добраўпарадкаванне возера.

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

## ІДЗЕ ПАДПІСКА НА

**"Мінскую праўду"**

на чацвёрты квартал 1994 года.

***Падпісная цана — 18.000 рублёў.***

Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і прадпрыемствах "Саюздруку".

### Надвор"е

***Сёння ўдзень на вобласці чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра — 20 — 25, у Мінску — 21 — 23 градусаў цяпла.***

## МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ

18—21 верасня гэтага года ў Мінску (пр.Машэрава,14) адбудзецца міжнародны кірмаш «Бістро-94". На ім будзе прадстаўлена разнастайнае абсталяванне для сучасных рэстаранаў, сталовых, кандытарскіх, шашлычных, кафэ, бараў і кемпінгаў, а таксама прадукты харчавання і напіткі. Яго пастаўшчыкі — прадпрыемствы і фірмы Беларусі, Расіі, Малдовы, Чэхіі, Польшчы.

Упершыню ў нашай рэспубліцы на кірмашы пройдзе міжнародны конкурс піва, він і напіткаў з адзнакай якасці і прысуджэннем медалёў.

Арганізатарамі кірмашу з"яўляюцца выставачная кампанія «Экспасервіс» сумесна з Міністэрствам гандлю, Асацыяцыяй кулінараў Беларусі, знешнепалітычнай асацыяцыяй «Міва».

*/НАШ КАР./.*

**Крымінал-тэлетайп з Салігорска**

### СКАЖЫ, ХТО ТВОЙ СЯБАР

Ужо колькі разоў папярэджвалі: пазбягайце выпадковых знаёмстваў! І не толькі ў сэнсе інтымных адносін... Малады чалавек праігнараваў гэтае правіла. Добра падпіў, але яму, зразумела, здалося, што гэтага мала. Тут якраз пад руку падвярнуўся дзяцюк, у якога душа таксама патрабавала дабаўкі. Вось малады чалавек і запрасіў яго да сябе на кватэру. А далей — як у тым дэтэктыве. Выпілі. Заснуў. Прачнуўся. Ні дзецюка. Ні скураной курткі. Ні грошай. Ні ашчаднай кніжкі з іншымі дакументамі.

Да народных парад трэба прыслухоўвацца.

### ЖАЛЕЗАБЕТОННЫЯ ДЗВЕРЫ

ў бліжэйшы час, відаць, трэба будзе ставіць у кватэрах. Асабліва прадпрымальнікаў. Над гэтым усё часцей задумваецца і Сяргей В. Здаецца, усё зрабіў, каб зладзеі не забраліся ў яго кватэру. Але аднойчы вярнуўся дадому — а дзверы выламаныя. З кватэры зніклі японскі відэаплэер, касеты да яго, два залатыя пярсцёнкі, ланцужок з таго ж металу, а таксама запасы гарэлкі, каньяку.

У другім выпадку ўзломшчык забраў тэлевізар, дываны. Сквапнасць фраера згубіла — злодзей быў хутка знойдзены.

Трэці няпрошаны госць праз выбітыя дзверы выйшаў непрыкметна, бо забраў усяго некалькі паперак — 470 долараў.

### НА САЛОДКАЕ ПАЦЯГНУЛА

Хто з нас не ведае казку пра Мішку касалапага, які вельмі любіў мёдам паласавацца і нярэдка выдзіраў вуллі? Дваццацігадовы беспрацоўны з вёскі Мазуршчына таксама вялікі аматар салодзенькага. Але ён пайшоў далей за чатырохногага "калегу". Хлапец наведаўся ў суседнюю вёску Жоўты Брод. І сцібрыў у 66-гадовага пенсіянера мёд разам з пчоламі і вулеем.

### НАВОШТА БЕДНЫХ РАСПРАНАЦЬ?

Што калгасы сёння ў даўгах, як у шаўках, вядома ўсім. Бо купляюць іх прадукцыю па вельмі нізкай цане, а прадаюць ім усё па вельмі высокаму кошту. Ды яшчэ і абкрадаюць з усіх бакоў. Здаецца, што можна сцібрыць з бульбасартавальнага пункта? Аказваецца, можна. І ў калгасе "Новае жыццё" з пульта кіравання хтосьці выдраў 127 святладыёдаў. У калгасе імя Чкалава са свінафермы знік электрарухавік. А ў калгасе "Радзіма" ноччу "падаілі" пяць аўтамашын, калгаснікі недалічыліся 180 літраў бензіну амаль на паўмільёна рублёў.

### НЕ ЗРАЗУМЕЛІ...

Цудоўныя сыркі ў шакаладзе пачаў выпускаць мясцовы малочны завод. Смачнейшыя за "Снікерс", таннейшыя за "Марс". Таму разыходзяцца яны ўмомант. Аляксандр Г. вырашыў скарыстаць гэтую сітуацыю. Купляў добрую партыю сыркоў і перапрадаваў іх значна даражэй. Вядома, без лішніх фармальнасцей, без ліцэнзій. І калі яго затрымалі, абвінавацілі ў спекуляцыі, чалавек спачатку абурыўся. Маўляў, рэкламу новай прадукцыі рабіў. Але яго не зразумелі...

### "ПРЫВАТЫЗАВАЛІ"

Невядомыя людзі дапамагаюць кіраўніцтву РБМУ трэста "Шахтаспецбуд" праводзіць працэс прыватызацыі. Пакінулі рамонтнікі, напрыклад, на Другой абагачальнай фабрыцы ў мантажнай будцы балон з прапанам, разак ды 30 метраў шлангу, каб, значыць, заўтра зноў варыць, рэзаць метал. А ўсё гэта за ноч нібы карова языком злізала. Цяпер здагадвайся, у чыім гаражы агрэгат схаваны. А каля кожнай будкі міліцыянера не паставіш...

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

**Акно ДАІ**

## "ЗМЕЙ" ПАДНЯЎ ГАЛАВУ

За першую дэкаду жніўня на дарогах вобласці адбылося 46 дарожна-транспартных здарэнняў. 15 чалавек загінулі, паранены — 61. На жаль, не змяншаецца колькасць аварый, учыненых нецвярозымі вадзіцелямі. З пачатку месяца на іх рахунку ўжо 11 небяспечных выпадкаў. У апошні момант тыя, хто трымае ў руках руль, усё часцей забываюць, што шклянка спіртнога і аўтамабіль — рэчы несумяшчальныя.

3 жніўня, каля 12 гадзін дня, на 5-м кіламетры аўтадарогі Лысіца — Гарадзея Нясвіжскага раёна шафёр мясцовага калгаса «Гарадзейскі" В.Касмовіч кіраваў у нецвярозым стане аўтамашынай «ГАЗ-53". Фінал — наезд на 24-гадовага пешахода, які атрымаў траўму галавы. Гэты чалавек зараз знаходзіцца ў цяжкім стане.

Вельмі сумна, што вадзіцель наўмысна пайшоў на парушэнне працоўнай дысцыпліны і закона. Ён меў вялікі жыццёвы вопыт, стаж працы за рулём — больш за 20 год і, безумоўна, ведаў, да чаго можа прывесці безадказнасць.

Не пашанцавала работніку салігорскай фірмы «Грэйнч» М.Бараноўскаму. Ён сеў да нецвярозага знаёмага ў «Аўдзі-100". Праз некалькі хвілін іншамарка наляцела на грузавік, які стаяў узбоч дарогі. У сутыкненні вадзіцель і пасажыр атрымалі калецтвы..

У аналагічнай сітуацыі апынуўся і мінчанін І.Васібеня. Машына, якой кіраваў п"яны вадзіцель, на 24-м кіламетры шашы Мінск — аэрапорт «Мінск-2" з"ехала ў кювет і перакулілася.

Хваля абыякавасці ўсё больш захлiствае ўдзельнікаў дарожнага руху. Не шмат знойдзецца людзей, якія спрабуюць затрымаць п"янага за рулём або нецвярозага пешахода. Нашы грамадзяне часцей дзейнічаюць па недарэчнаму правілу: ты рабі што жадаеш, толькі мяне не чапай...

Вестка, што ў Дзяржынскую бальніцу з траўмай трапіла 18-гадовая Н.Скрунда, прыйшла ў міліцыю каля гадзіны ночы. Ахвяра аўтанаезду паведаміла: на аўтадарозе Паўлоўшчына —Негарэлае яе збіла аўтамашына, якая з месца здарэння знікла. У выніку своечасова прынятых мер праз некалькі гадзін уцякач быў знойдзены і затрыманы. Ім аказаўся 28-гадовы жыхар мясцовай вёскі Рудня М.Шумяка. Як высветлілася, ён кіраваў аўтамабілем «Форд» у нецвярозым стане. Супрацоўнікі ДАІ аказаліся на вышыні, а злачынца, які пакінуў чалавека без дапамогі, панясе прадугледжанае законам пакаранне. Але ў сумнай гісторыі ёсць яшчэ і другі бок. М.Шумяка піў гарэлку не адзін. На вачах у людзей сеў за руль аўтамашыны і паехаў насустрач бядзе. І яго ніхто не спыніў.

*С.ШОСТАК,*
*супрацоўнік ДАІ УУС аблвыканкома.*

Кіраўнік і калектыў

# БЫЦЬ ДОБРЫМ, А НЕ ДОБРАНЬКІМ —

## такі стыль работы старшыні калгаса "Рассвет" Нясвіжскага раёна А.І.Булыгі

**Разам з намеснікам начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання райвыканкома па эканоміцы і рыначных адносінах В.Ф.Болсунам мы завіталі ў кантору калгаса "Рассвет" недзе а дванаццатай гадзіне дня. Анатоль Іванавіч Булыга, старшыня праўлення, прывітаўшыся, адзначыў, што з часам у яго строга: трэба пабываць і на ферме, і на мехдвары, і на сенажацях, дзе ідзе нарыхтоўка кармоў... Таму і прапанаваў весці гутарку, як кажуць, на хаду, а заадно знаёміцца з калгасам, з людзьмі. Мы згадзіліся, ведаючы складанасць старшынёўскай працы.**

Сеўшы ў "Ніву" і крыху ад"ехаўшы, скіравалі свой позірк на ўзводзімы будынак.

— А гэта будзе новы Дом культуры, — зазначыў Анатоль Іванавіч. —- Моладзі ў нас нямала, ды і дзеці растуць. Трэба клапаціцца аб тым, каб яны з карысцю праводзілі час пасля вучобы ў школе і на канікулах.

Увогуле, будуем шмат. Летась справілі наваселлі 12 сем"яў калгаснікаў. Нямала сродкаў уклалі для таго, каб правесці ў вясковыя дамы блакітны газ і ваду.

А вунь бачыце каталіцкі касцёл, які наведваюць вернікі? Ён адкрыты 25 ліпеня 1993 года пасля рэстаўрацыі. Усе матэрыялы і грашовыя сродкі на яе правядзенне выдзеліў калгас. У вёсцы Кунаса цяпер вядуцца работы па аднаўленню царквы — помніка XVII стагоддзя. І тут дапамога гаспадаркі адчувальная.

Наогул, летась на будаўніцтве мы асвоілі 325 мільёнаў рублёў. Вяскоўцы вітаюць такое пачынанне. Таму сёлета, акрамя гаспадарчых пабудоў, узводзім пяць дамоў для калгаснікаў. Мяркуем, што яшчэ пяць сем"яў да канца года справяць наваселлі.

***— Анатоль Іванавіч, чаму так атрымліваецца, што адна гаспадарка будуецца, расшыраецца, словам, не здае заваяваных пазіцый, а другая ледзьве зводзіць канцы з канцамі?***

— Многія кіраўнікі знаходзяць "аб"ектыўныя" апраўданні сваёй бяздзейнасці: маўляў, час сёння такі, у віхуры дзікага рынку нельга разгарнуцца. І тое перашкаджае, і тут не выходзіць. А я думаю так: дысцыпліну трэба трымаць, прадукцыйнасць працы павышаць. Калі не будзе ўсяго гэтага ў падначаленым калектыве, то пагібель прыйдзе вельмі хутка. Карацей кажучы, неабходна справу рабіць штодзённа, думаць творча, быць прадпрымальным...

***— Ваша гаспадарка, нягледзячы на цяжкасці, змагла ў гэтым годзе пераўзысці леташнія паказчыкі...***

— Сапраўды, па выніках шасці месяцаў у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года мы павялічылі валавыя надоі малака на 207 цэнтнераў, палепшылі яго якасць, давёўшы здачу прадукцыі дзяржаве першым гатункам да 98 працэнтаў. Выраслі надоі ад каровы на 321 кілаграм і сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы.

У калектывах нашых ферм разумеюць, што ўмацаваць эканоміку гаспадаркі можна толькі добрай працай. Штодзённа наведваючы жывёлаводаў, прыкмячаю: людзі даражаць рабочым месцам, справу ведаюць, сталі больш згуртаваныя. З такімі, вобразна кажучы, горы можна варочаць. Узяць, напрыклад, даярак Ніну Бутрымовіч і Алену Чарнюк. За шэсць месяцаў ад кожнай каровы сваёй групы яны атрымалі адпаведна 3.143 і 3.113 кілаграмаў малака. Па ўсім відаць, сёлета пераўзыдуць 5-тысячны рубеж.

***— Але ж не адно стараннне і энтузіязм людзей гарантуюць поспех.***

— Само сабой зразумела. Мы ствараем трывалую кармавую базу для жывёлы. Бяскорміцы ў нас не бывае. З мінулай зімы яшчэ застаўся фураж. І на надыходзячую зімоўку рыхтуем кармы поўным ходам. Сёння практычна маем неабходную колькасць сена, ды і з сенажом усё ў парадку. Кормаўборачны канвеер сёлета, як і летась, дзейнічае без збояў. Аплата працы людзей арганізавана па прагрэсіўнай сістэме. Зрабіў, напрыклад, дзесяць рэйсаў на дастаўцы сенажу, атрымлівай 11 тысяч рублёў. Кожны наступны рэйс аплачваецца ўдвая больш. Нашы ж працаўнікі робяць па 20—25 рэйсаў. У выйгрышы тут і калгас, і механізатары, якія маюць магчымасць атрымаць высокую зарплату.

***— Калі не сакрэт, як у калгасе паспяваюць у тэрмін і на належным узроўні выканаць усе работы? Мы бачылі, што і жывёлагадоўчыя памяшканні ўжо да зімоўкі рыхтуюцца, і кацельня ў парадак прыводзіцца, і жніво ў разгары...***

— Па-мойму, мы неяк пачалі забываць пра чалавечы фактар, а ён тут адыгрывае важную ролю. У нас добрасумленная і ініцыятыўная праца заўсёды заахвочваецца. Праводзім, як і ў мінулыя гады, сьвяты працы. Пры гэтым ніводзін чалавек не выпадае з поля зроку, кожны адчувае увагу да сябе. Так было і нядаўна, калі падводзілі вынікі работы за першае паўгоддзе 1994 года. Добрыя словы былі сказаны ў адрас механізатараў Вячаслава Хвядзько, які вызначыўся на ворыве глебы, Івана Цара — звеннявога па вырошчванню цукровых буракоў, многіх жывёлаводаў, паляводаў...

***— Анатоль Іванавіч, у калгасе нямала людзей працаздольнага ўзросту. Што іх утрымлівае ў вёсцы?***

— Напомню, сярэдні узрост працуючых у аўтапарку, а гэта 60 чалавек, складае 36 гадоў, у трактарным парку — 38. У калгасе засталіся яны па той прычыне, што сёння практычна сельскі быт у нас нічым не адрозніваецца ад гарадскога. Амаль ва ўсіх калгаснікаў дабротныя дамы, у вёсках добраўпарадкаваныя дарогі. Заробак у калгаснікаў таксама высокі. А ў адрозненне ад гараджан яны маюць магчымасць трымаць жыўнасць — птушку і жывёлу, вырошчваць у цяпліцах на прысядзібных участках агуркі і памідоры. Мы практычна кормім і свае сем"і, і гараджанам дапамагаем.

Асабіста ў гэтым бачу росквіт вёскі, эканамічную моц калгаса...

**Анатоль Іванавіч паглядзеў на гадзіннік:**

**— Прабачце, па калгасных справах вымушаны развітацца з вамі. Еду ў Ляхавічы.**

**Паціснуўшы руку старшыні, мы пажадалі яму поспехаў у нялёгкай хлебаробскай справе. Самі тым часам вырашылі пагутарыць з калгаснікамі, пачуць іх водгукі аб А.І.Булыгу. І дзе б ні пабывалі, чулі ў яго адрас амаль аднолькавае:**

**— Дысцыпліну трымае, але да людзей добры. Так-так, добры, але не добранькі, бо лайдакоў, абібокаў не цярпіць. Змог дабіцца таго, што жывуць вяскоўцы адной дружнай сям"ёй. Разам спраўляюць наваселлі і вяселлі, праводзяць юнакоў на службу ў армію...**

**Да ўсяго сказанага хачу дадаць, што ў райсельгасупраўленні ахарактарызавалі А.І.Булыгу як валявога і напорыстага кіраўніка.**

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*





*Капыльская райаграпрамтэхніка мае вопытныя кадры рабочых-станочнікаў, брыгадзіраў, майстроў і інжынераў. Вось чаму вырабіць нестандартнае абсталяванне, аднавіць паламаны трактар, адрэгуляваць у дызелі паліўную апаратуру для рамонтнікам заўсёды пад сілу.*

*НА ЗДЫМКАХ: участак перамоткі электрарухавікоў; газаэлектразваршчык Валянцін **Кашуба** рамантуе транспарцёр камбайна; слесар Аляксандр **Васілеўскі** вырабляе нестандартнае абсталяванне.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

**Гэтыя дзве жанчыны жывуць непадалёк адна ад адной у вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна. Выслухаў неяк я іх споведзь пра жыццё-быццё — і ўзяўся за пяро.**

**На першы погляд, нічога незвычайнага ў лёсах жанчын няма. Проста яны былі і засталіся добрымі жонкамі, шчырымі маці, пяшчотнымі бабулямі. А яшчэ — працаўніцамі.**

Людзі і лёсы

# ДЗВЕ ЖАНЧЫНЫ

## Ніна Макараўна

Родам Н.М.Насілоўская з гэтых месц, з Пясочнага. Было ў сям"і дзевяцера дзяцей. Але пакасілі іх розныя хваробы. І засталася Ніна самай малодшай з трох уцалелых. Адна сястра стала бухгалтарам, другая — настаўніцай. А Ніна?

Калі пачалася Вялікая Айчынная, яна закончыла дзевяць класаў. Часта хавалася з роднымі ад немцаў: адзін са сваякоў быў у партызанах, сям"я лічылася партызанскай. Але перажылося-перастрашылася. Пасля вайны паступіла на педагагічныя курсы. Пяць гадоў працавала выхавальніцай у дзіцячым доме ў Уздзенскім раёне.

Выйшла замуж, пайшлі дзеці. Работу вымушана была памяняць. Чатыры дзяўчынкі, што нараджаліся адна за адной, патрабавалі мацярынскай увагі, пяшчоты. Усё гэта знаходзіла для іх Ніна Макараўна. Хоць даводзілася працаваць на розных саўгасных (часта нялёгкіх) работах. Ды і Франц Уладзіміравіч быў брыгадзірам трактарнай брыгады, а пасля — механікам. Самі ведаеце, як з часам у вёсцы. Але заўважыла кіраўніцтва гаспадаркі ў Н.Насілоўскай "разыначку" — адданасць справе, старанасць. Яе ўзнагароджваюць ордэнам "Знак Пашаны". Было ў жанчыны ў той памятны год 350 выхадаў на работу! А затым у сямейных куфэрках з"явіліся шматлікія медалі, граматы і падзякі.

Ніна Макараўна ўжо даўно на пенсіі. На заслужаным адпачынку і муж. Здаецца, жыць бы ды радавацца. Дык не. Не склалася жыццё ў Марыі — другой па ўзросту дачкі. Выйшла замуж, нарадзіла ў Іркуцку Сашку. Але ліхі муж загнаў яе, маладзенькую, у магілу. Забрала пляменніка да сябе старэйшая — Эма. Жывуць яны ў Мінску. Выхоўвае Эма і яшчэ аднаго хлопчыка — сястры Валі, якая, як і Марыя, памерла: прыкінуўся рак крыві. Тыя цяжкія дні перажылі Насілоўскія ў 1985 годзе. Чацвёртая ж дачка — Тамара жыве ў Наваполацку.

Расказвала мне Ніна Макараўна, што вельмі любіла спяваць, танцаваць, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці пры Пясочанскім сельскім Доме культуры. Але трагічныя ўдары лёсу прымусілі забыцца пра ўсё гэта. Трэба дапамагаць унукаў выхоўваць. Трымаюць на падворку розную жыўнасць.

Гаспадары ўправіліся са справамі. Яны доўга распавядалі мне пра мінулае, пра сённяшняе. У хаце было ўтульна. Размова ішла спакойная, разважлівая.

— Колькі ж пенсіі я атрымліваю? — раптам горка ўздыхнула Ніна Макараўна. — Рабіла, рабіла дзень і ноч, ды і зарабіла. Смех людзям сказаць. А ёсць такія, што ўвесь час дома прасядзелі. Маюць жа больш за мяне.

## Вікторыя Антонаўна

Бабулька, якой ужо пад дзевяноста, паволі злезла з печы, апранула камізэльку, села на канапу. Я папрасіў яе расказаць пра сябе. І адразу здзівіўся цудоўнай памяці ў такім узросце: Вікторыя Антонаўна Карповіч называла не толькі гады, а і дні, гадзіны.

— Родам з Мінскага раёна. Пазнаёмілася ў родных Каралішчавічах з будучым мужам — Паўлам Фёдаравічам, ураджэнцам Пясочнага. У той час дваццаціпяцітысячнікам, — успамінае жанчына. — Ён быў у нашай гаспадарцы партарганізатарам. Пераехалі ў Мінск, займелі кватэру, абжыліся. Усё разбурыла вайна. Давялося мне з дваімі малымі дзецьмі ўцякаць з палаючага горада. У мужа была броня, працаваў на заводзе імя Мяснікова.

Падалася спачатку да маці, у Каралішчавічы. Пасля і муж разам са мной апынуўся: завод разбамбілі. Нядоўга прабылі ў Каралішчавічах. Небяспечна было заставацца. Мужа ведалі як партыйца. І ён падаўся разам з сынам у Пясочнае. Хутка з дачкой дабралася туды і я.

Нарадзіліся яшчэ двое дзяцей. Даводзілася пераносіць страшныя моманты ў дні фашысцкай акупацыі, голад, холад. Павел Фёдаравіч дапамагаў партызанам, а ў 1944 годзе яго мабілізавалі на фронт. Пад Кёнігсбергам, цяжкапараненаму, ампутавалі нагу. Доўга праляжаў у тульскім шпіталі. А ў 1945-м вярнуўся ў родныя мясціны, да сям"і. Быў прызначаны загадчыкам млына. Толькі вось праз дзесяць гадоў няшчасны выпадак абарваў ягонае жыццё.

Засталася Вікторыя Антонаўна адна з чацвярымі дзецьмі. Духам не падала: працавала ў саўгасе "Прамень". Дапамагалі суседзі, знаёмыя. І цяпер не цураюцца яе добрыя людзі: і малачка прынясуць, і хлеба. У вяснова-летні сезон наязджаюць і Яўген, і Валянціна, і Уладзімір, і Тамара. Засяваюць гародзік, ласуюцца яблыкамі, грушамі з бацькоўскага саду. На зіму бабулю дзеці забіраюць у Мінск. У нашай доўгажыхаркі пяць унукаў — усе хлопцы, тры праўнукі.

— Дзеці мае выраслі шчырыя, добрыя, вывучыліся, — дзеліцца са мною Вікторыя Антонаўна. — Старэйшы, Яўген, пайшоў на пенсію, працаваў на керамічным заводзе. Валянціна — у харчовай прамысловасці. Уладзімір — начальнік будаўнічага ўпраўлення. Малодшая, Тамара, — настаўніца.

— На лёс не скарджуся, — працягвае бабуля. — Хацелася б, можа, і лепш пражыць, але нічога не зробіш. Як кажуць, кожнаму — сваё. Ніколі не засмучайцеся і не сярдуйце на жыццё. Заўсёды верце ў дабрыню. Астатняе — прыйдзе.

**Вось такія яны, два простыя і няпростыя жыцці. Вось такія яны, дзве простыя і няпростыя жанчыны.**

*Мікалай ЛОСІК, член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь.*

*Капыльскі раён.*

Музеі

# У БЛУЖУ, ДА ГЕРОЯ

Блужская сярэдняя школа — адна з лепшых у Пухавіцкім раёне. Тут умела спалучаюць навучанне і выхаванне падрастаючага пакалення. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае музей Героя Савецкага Саюза, выпускніка гэтай СШ Мікалая Чэпіка, які здзейсніў свой подзвіг на афганскай зямлі. Педагогі школы, яго землякі стварылі музей Героя, у якім сабраны асабістыя рэчы Мікалая, успаміны яго родных і блізкіх, таварышаў па службе. З экспанатаў можна даведацца, як хлопец вучыўся, а потым працаваў на чыгунцы. Падтрымліваюцца цесныя сувязі з воінамі-дэсантнікамі падраздзялення, у якім служыў М.Чэпік.

— З усёй Беларусі прыязджаюць у наш музей. Вось і сёлета на яго базе праведзены рэспубліканскі фестываль "афганцаў". Шмат заявак паступае з мінскіх школ. І нікому мы не адмаўляем, — зазначыў намеснік дырэктара школы Адам Антонавіч Шастак.

Дадам, што да паслуг гасцей школьны інтэрнат, дзе можна пераначаваць. Працуе сталовая — толькі трэба загадзя паведаміць аб прыездзе экскурсантаў.

Ні адна важная падзея ў жыцці школьнага калектыву не праводзіцца тут у адрыве ад музея М.Чэпіка. У ім праходзяць сустрэчы з ветэранамі вайны і працы, наладжваюцца выставы, конкурсы, дыспуты, канферэнцыі. Многія экспанаты настаўнікі выкарыстоўваюць пры правядзенні ўрокаў, што садзейнічае паглыбленню ведаў вучняў, іх патрыятычнаму выхаванню.

*Уладзімір ВЕРАСКОЎ.*

Шываварат-навыварат

# ЛЁГКІ "ХЛЕБ"

Ах, грошы, грошы... Колькі яны прыносяць клопатаў, радасці, надзей! І ўсяго такога, без чаго наша жыццё было б не жыццё, а так — марнае існаванне. Ад таго, колькі гэтых самых «тугрыкаў» у цябе ў кішэні, залежыць вельмі многае. Існуе шмат спосабаў і прыёмаў здабывання грошай. Аднак у цэлым іх можна раздзяліць на два моманты: законны і незаконны.

Жыхар сталічнай вобласці Анатоль Марчукоўскі (прозвішча зменена) больш схіляўся да другога шляху. Быў ён чалавек сямейны. Жонка, двое «непаўналетак». А працаваць — не працаваў нідзе. Не паспеў набыць адпаведную прафесію. А, можа, і не хацеў. На дваіх з жонкай у іх было адзінаццаць класаў школьнай адукацыі. Прычым восем лічылася за ім, а тры класы — за жонкай. Не густа. Але кабеце хапала ведаў, каб ездзіць «чаўнаком» у Расію і падлічваць атрыманую выручку. Складана сказаць, якія прыбыткі сям"я Марчукоўскіх атрымлівала ад такіх паездак, аднак легкавы аўтамабіль яны набыць змаглі.

Анатоль быў «профі» іншага палёту. Калі верыць ягоным паказанням, у канцы 1993 года ім былі набыты фальшывыя банкноты вартасцю 500 рублёў. З якой мэтай — чытач, мяркую, зразумеў. Правільна: каб пусціць іх пры выпадку ў абарот. І атрымалася. Сто фальшывых купюр абмяняў на 100 сапраўдных долараў ЗША.

Удача акрыліла Марчукоўскага. Праз некаторы час на бензазапраўцы ён паспрабаваў разлічыцца тымі ж «пяцісоткамі». Але касірка распазнала, што гэта за грошы... На следстве Марчукоўскі кляўся-бажыўся, што нічога не ведаў. Лічыў грошы сапраўднымі. У дадатак выявілася яго схільнасць да наркотыкаў. Пакурваў «траўку».

Адным словам, выйшаў у Марчукоўскага канфлікт з законам. І фальшывыя грошы, і наркотыкі падпадаюць пад адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Гэта Марчукоўскі зразумеў яшчэ на следстве. А вывады з ягонай дзейнасці зрабіў ужо суд.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ, намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.*

ПОТРЕБИТЕЛЬСКАЯ КООПЕРАЦИЯ

**Такое впечатление, что цены упорно штурмуют Эверест. И, по всей видимости, самая высокая вершина мира будет успешно покорена. Только вот никого это не радует. А первыми принимают на себя удар за "покорительство" работники прилавка. Нет, мы не встаем в "плотные ряды" их защитников, недостатков в торговле не меньше, чем в любой другой отрасли. Как и проблем, кстати. О них говорят сегодня продавец Дзержинского Дома торговли И.Н.Чернигова и заместитель председателя Березинского райпо И.А.Гальченя.**

*И.Чернигова:*

# РОСТ-ПАДЕНИЕ

Несмотря на десятикратный и более рост товарооборота мы не можем удовлетворить потребности покупателя по многим позициям. Хотя честно скажу: мы не сидим сложа руки. Межрайбаза — основной наш поставщик — далеко не в состоянии обеспечить даже минимальный ассортимент. Поэтому ищем другие возможности: выходим на прямые связи с государственными предприятиями, коммерческими структурами, частными предпринимателями. За последнее время таким образом закуплено товаров более чем на миллиард рублей, что составляет почти треть к товарообороту.

Что касается коммерческих структур, то расчеты за товары производим по мере реализации. Это для нас выгодно, особенно если учесть дорогостоящие кредитные ресурсы.

Стараемся работать с каждым покупателем, предложить тот или иной товар, посоветовать. Но не всегда это удается. Рост цен, который значительно опережает рост заработной платы, задержка с ее выдачей на многих предприятиях города, в хозяйствах района, конечно же, ставит людей в тупиковую ситуацию. Выбора у них нет, приобретают только самое необходимое.

Как никому другому, нам, работникам прилавка, видно расслоение общества по части доходов. Недоступными стали многие товары для пенсионеров, инвалидов, многодетных семей. Отсутствуют теперь товары по социально низким ценам.

Конечно, со своей стороны мы стараемся как-то удовлетворить их запросы. С этой целью организована предварительная запись на необходимые товары.

Коллектив Дома торговли понимает, что ускорение товарооборачиваемости — один из факторов улучшения финансовых результатов. Она составляет около 47 дней по предприятию, а по райпо — 54 дня.

Просторные торговые залы у нас по-современному, нестандартно оборудованы, это позволяет демонстрировать товар и, что называется, в действии, как, например, в отделе по продаже телевизоров. Но вот почему-то решили Дзержинску телевизоры по фондам не выделять, а передали их другой организации — "Орбита-сервис", помещение которой не приспособлено для их продажи, а мы остались не у дел.

Вот открыли в этом году швейный цех. Продукция его расходится неплохо. Есть и какая-никакая прибыль.

Зачастую пресса и население нарекают на торговлю за высокие цены. Оправданно ли? Так, при возможности 50-процентной надбавки и свободных ценах, в среднем по району надбавка составляет 33 процента. Ибо торгуем социально значимыми товарами с пониженной наценкой, убыточной для нас. Например, хлебом, молочными продуктами, закрытым учреждениям отпускаем товары, на которые применяется надбавка только 15 процентов. К тому же, львиную долю, полученную за счет торговой наценки, платим банку за кредиты.

Аналогичная ситуация и в других отраслях, где банковские проценты и платежи составляют до 50 процентов доходов и постоянно возрастают. В то время как заработная плата, скажем, в общественном питании, за прошлый год возросла в 12,8 раза при росте производительности труда в 21 раз. Невысокая у нас зарплата в промышленности, в сфере заготовок, на транспорте. А ведь нам тоже жить надо, семьи содержать.

Выход из сложившейся ситуации видим в увеличении объемных показателей, хотя из-за неимоверного роста оптовых цен и снижения жизненного уровня населения становится сложнее решать эти вопросы. Из-за высоких цен труднее реализуются промышленные товары, снизилась их оборачиваемость.

Проблемы сегодня не только у нас. Но мы стараемся их решать и будем работать так, чтобы покупатель шел от нас по возможности с хорошим настроением.

*И.Гальченя:*

# РАСЧЕТ НА СЕБЯ

ПОТРЕБКООПЕРАЦИЯ, как известно, — система многоотраслевая. Березинскому коопзаготпрому удалось хозспособом построить хорошую материально-техническую базу, которая позволяет решать практически все вопросы по заготовке, переработке и реализации сельскохозяйственной продукции и сырья. Оборудованы емкости для хранения картофеля на 400 тонн, овощей — на 400 тонн, фруктов — на 100 тонн. В квасильно-засолочном пункте налажено также производство овощных консервов. В минувшем году, кстати, произведено их на 57,6 млн.рублей.

К сезону заготовок подготовили цех по выработке фруктового пюре мощностью 10 тонн в сутки, варенья и джемов. Это позволит нам сократить потери плодоовощной продукции, сократить завоз ее из других регионов.

Вместе с тем нынешние экономические условия не могут не отразиться и на работе заготовителей. Все меньше поступает к нам мясопродуктов, картофеля, овощей и др. Так, если в 1989 году коопзаготпром закупил до 400 тонн тряпья, то в прошлом году только 90. Считаю, что основной причиной сложившегося положения являются низкие оптовые цены, не позволяющие увеличивать закупочные. Надо искать выгодный рынок сбыта, а также привлекать к этой работе коллективы сельских магазинов, максимально использовать "подзабытый" гужевой транспорт.

Очень сложная ситуация с заготовкой свинины и говядины. Только в первом квартале ее объемы сократились на 33%. И не потому, что покупать не у кого. Покупать дорогие мясо и продукты его переработки некому.

Выход вижу в создании единого заготовительного перерабатывающего комплекса с сосредоточением в нем всего процесса — от заготовки до реализации готовой продукции. Это снизит уплату процентов за кредиты, издержки обращения по всему циклу. В итоге — снижение розничных цен, увеличение объемов реализации.

На нас, как известно, возложен госзаказ по поставке кожевенного сырья концерну "Беллегпром".

Но ряд руководителей хозяйств отказались с нами сотрудничать. Пришлось обратиться в райисполком. Дело сдвинулось. Принято решение о сдаче из хозяйств всего кожевенного сырья коопзаготпрому.

Кроме того, мы договорились, что, выполнив государственный заказ, все кожевенное сырье, полученное сверх плана, переработаем на давальческих началах и полученный кожтовар используем для пошива готовых изделий с последующей реализацией их работникам сельского хозяйства.

Надо прямо сказать: нам еще не удалось улучшить заготовку овощей и фруктов и снабжение ими населения. Эта проблема по-прежнему на повестке дня. Ведь ресурсы у населения мы осваиваем недостаточно, слабо влияем как на объем производства, так и на ассортимент выращиваемой продукции. Поэтому мы делаем упор на более тесное сотрудничество с крестьянскими подворьями. На договорной основе продаем им семенной материал, полиэтиленовую пленку для теплиц. Часть же урожая поступает коопзаготпрому.

Значительным резервом повышения эффективности работы является развитие подсобного хозяйства. Пока прибыль от него небольшая — несколько миллионов рублей. У нас же имеются все условия для откорма скота, создана собственная хорошая кормовая база. В ближайшее время планируем увеличить производство мяса в полтора-два раза.

■ Погляд на праблему

# За дарослымі ідуць і дзеці

Паспяхова выступіла на рэспубліканскіх спартыўных гульнях у Гомелі, прысвечаных 100-годдзю алімпійскага руху, каманда арэнднага прадпрыемства «Рудзенскі завод пластмасавых вырабаў». Агульнакаманднае трэцяе месца і першае месца за сямейнай камандай Длускіх — вынік нядрэнны. Але сённяшняя размова не толькі пра турызм, але і пра патрыятычнае выхаванне.

Рудзенцы трапілі на гэтыя спаборніцтвы як лепшыя сярод сельскіх фізкультурных калектываў вобласці. Саша і Андрэй Рабчонкі — токар і газазваршчык, Таня Бохан — ліцэйшчыца, Надзя Шымановіч — зборшчыца цацак і сям'я Длускіх — Валера, які працуе на РЗПВ майстрам, яго жонка Лена, настаўніца, і сын Саша, якому 12 гадоў. На чале з трэнерам Юрыем Васільевічам Дагісам, вялікім аматарам турызму. Яны сур'ёзна рыхтаваліся да спаборніцтваў. Па выхадных збіраліся разам і на лясных дарогах адпрацоўвалі тэхніку турызму. Юрый Васільевіч — чалавек патрабавальны. У гэтым пераканаліся тыя, хто бываў разам з ім у паходах. Дасканала валодаючы ўсімі тонкасцямі турысцкай справы, ён выхаваў нямала юнакоў і дзяўчат, якія затым дасягнулі нядрэнных поспехаў у турызме.

Суддзі былі ў захапленні, калі рудзенцы ўстанавілі палатку за 1 мінуту 40 секунд. Тэрмін надзвычай кароткі. Як бывалыя турысты, яны былі адзінай камандай, што на турыстычнай паласе згатавала абед.

На эстафеце «Тата, мама, я — дружная сям'я» Длускія занялі другое месца па арыентаванню і першае — па турыстычнай паласе. І выйшлі на першае агульнакаманднае месца.

У тым, што на РЗПВ не забыліся пра гэты непрэстыжны зараз від спорту, заслуга Дагіса, які праводзіць вялікую спартыўную, патрыятычную работу. І гэта — галоўнае. Сама памятаю, як, прыехаўшы ў раён, пазнаёмілася з баявымі і партызанскімі мясцінамі Пухаўшчыны менавіта дзякуючы паходам Юрыя Васільевіча. Нашы маршруты пралягалі па сцежках партызанскіх атрадаў, да тых мясцін, дзе ішлі баі і дзе зараз устаноўлены помнікі. Памятаю, якое незабыўнае ўражанне засталося пасля наведання Прыстані — вёскі, якую немцы ў вайну спалілі. Былі сустрэчы з мясцовымі жыхарамі: у вёсках засталіся сведкі карных аперацый, жорсткіх баёў.

І ніякія лекцыі, ніякія фільмы так яскрава не раскажуць пра тыя гады. У Юрыя Васільевіча шмат фотаздымкаў, якія напамінаюць аб шматлікіх паходах. Многія з удзельнікаў гэтых вандровак раз'ехаліся па розных адрасах, зараз займаюць сур'ёзныя пасады, аднак упэўнена, што сустрэчы з ветэранамі, са сведкамі вайны захаваліся ў іх сэрцах.

Гадоў дзевяць назад рудзенскія турысты аднавілі зямлянку і ўстанавілі памятны знак ля Прыстані ва ўрочышчы «Воўчае логава», дзе змагаліся партызаны атрада «За Радзіму». Штогод рудзенцы прыязджаюць сюды, абнаўляюць, рамантуюць і знак, і зямлянку. У дзень сустрэчы партызан атрада турысты далучаюцца да іх. Яны любяць паслухаць ваенныя ўспаміны. Дарэчы, кіраўніцтва Рудзенскага завода пластмасавых вырабаў становуча ставіцца да ініцыятыў Дагіса, дапамагае фінансамі. Тут разумеюць, што робіцца гэта не для справаздачы, а для выхавання моладзі.

Юрый Васільевіч, які сам працуе на заводзе, гаворыць:

— Немагчыма ўявіць, каб нашы дзеці, унукі раслі, выхоўваючыся на чужой маралі, на чужых традыцыях, на чужой гісторыі. Вось тут, побач, у суседняй вёсцы, у суседнім сельсавеце шмат такога, пра што не прачытаеш ні ў адным падручніку. І нельга школьнікаў выхоўваць на адмаўленні ад нашага мінулага. Шмат герaічных старонак у гэтым мінулым, і стваралі іх нашы бацькі, дзяды.

Шкада, што нямнога засталося ў нас такіх энтузіястаў, якія не на словах, а на справе вядуць крапатлівую і вельмі непрыкметную, але сапраўды патрыятычную работу. Да такіх можна аднесці і Сяргея Іванавіча Сіпача з Гарэльца, які жыццё прысвяціў стварэнню музея партызанскай славы. Збіраў па крупінках каштоўны гістарычны матэрыял, на якім вучыліся пакаленні школьнікаў.

*Аліна ГРЫШКЕВІЧ.*

■ Хотите — верьте, хотите — нет

# ВСЕ ЦВЕТА РАДУГИ

Люди, рожденные под знаками Воздуха, — сангвиники /20 января — 19 февраля, 20 мая — 19 июня, 20 сентября — 19 октября/. Это прирожденные обладатели украшений. Они, как правило, хорошо сложены, стройны, энергичны, привлекательны, легки на подъем, веселы и ... беззаботны. Работая преимущественно в сфере бизнеса, рекламы, они способны выполнять самую разную работу, причем одновременно могут читать, вязать, слушать, смотреть и т.д. «Воздушные» лишены многих стереотипов, от которых страдают Земля, Огонь и Вода. Не уделяя особого внимания объектам внешнего мира, им удается быстро переключаться на новых людей, в иных условиях, что избавляет от нервных перегрузок, волнений. Поэтому болеют они значительно реже других, подвижны, большие жизнелюбы. Такой активный образ жизни заставляет искать что-то новое, в том числе новые знакомства, новые дела, новые сделки и договоры. Короче говоря, они не нуждаются в помощи сил природы, покровительстве металлов и минералов.

Однако не надо забывать, что эти люди всегда в центре внимания, а значит, они хотят быть, так сказать, «на людях» красивее и оригинальнее. Воздух, пожалуй, единственный знак арабского гороскопа, который не поклоняется металлическим и каменным фетишам, а сам заставляет их служить себе. В этом отношении он неприхотлив, но предпочитает изысканные украшения, ведь недаром говорили древние римляне: «Сангвиники — животворные меценаты».

Какие же металлы хороши для них?

Серебро — главное, что дает им успех и не заставляет задумываться о бренности существования. В его отблесках видится уверенность в успехе, предприимчивость, искусство общения с незнакомыми людьми, умеренность в выборе украшений. В самом деле, Воздух предпочитает серебро золоту, которое слегка обжигает его своей мощью. Вместе с тем, золото — приемлемый металл для людей этих знаков, так как они не задумываются о его достоинствах, не бредят своими ценностями, меняют их и... фактически, таким образом, избегают отрицательного воздействия «златого тельца». В серебре скрыты великие таинства, которые не все способны заметить, отдавая предпочтение золоту — металлу богов. Сангвиники чувствуют эти силы и умело их используют, даже не задумываясь об их предназначении.

Платина — металл королей, к которому Воздух очень неравнодушен. Это символ тотального успеха в любых начинаниях, перед которым блекнет даже золото. Платина обладает большей энергетичностью, чем любой иной металл, что позволяет человеку чувствовать постоянный прилив сил и свежесть мысли. Кстати, платина в некоторой степени приемлема и для Земли, почитаема женщинами Воды, но далеко не популярна у Огня.

Воздух чувствует атмосферную поддержку, соприкасаясь с оловом, свинцом, нержавеющей сталью, любит иметь дело с алюминием, но весьма негативно относится к меди, бронзе, железу: позеленевшие и пожелтевшие от коррозии металлы вызывают у него тягостные ощущения.

Есть один представитель менделеевской таблицы, который вполне способен заменить дорогую платину, — это никель. Астрологические тайны никеля остаются загадкой, хотя описание некоторых его особенностей мне доводилось встречать у древних арабов и европейцев. К сожалению, многое осталось неясным. Знаю только, что никель плох для Земли и Воды, безразличен Огню, а вот сангвинику следует в доме на видном месте поставить какой-либо предмет из металла, покрытого никелем. Сегодня статуэтку из этого металла встретишь редко, но кое-что еще осталось. Об этом не мешало бы помнить Воздуху. Никель — своеобразный ретранслятор энергии Космоса.

Какие камни служат Воздуху?

Алмаз — главная ценность, в нем сосредоточена тайна вечной молодости, активности. Но все же люди воздушной среды отдают предпочтение обработанному алмазу — бриллианту, мощь которого намного выше. На Востоке говорят, что бриллианты приводят бедняка к смерти, богатого — к разорению, а умного — к обогащению духа и тела. Эти камни опасны для Земли и Воды, их ревностно воспринимает Огонь. Бриллианты символизируют нейтральные тона и прозрачность бытия. Они заставляют думать о сегодняшнем дне, не строя планов на завтра.

Воздух почитает горный хрусталь /внешняя яркость владельца/, белый жемчуг /великолепие наряда/, слоновую кость /умеренность запросов/, светлые кораллы /поиск успеха/, александрит /ожидание тепла/, кварц /стабильность в коллективе/. Замечу, что следует использовать жемчуг, добытый в морях и океанах, шарообразной формы. Речной же, вычурных конфигураций, уважающие себя сангвиники никогда не предложат любимым женщинам.

Серебро в сочетании с любым из отточенных камней усиливает эффективность облика сангвиника, придавая ему большую уверенность в себе.

Воздух нейтрально относится к янтарю и агату, а также уделяет внимание, правда с оглядкой, таким минералам, как рубин, гранат, яшма. Нежелательно ему иметь дело с лазуритом, бирюзой, нефритом, сапфиром. И уже совсем не следует носить изделия из изумруда и малахита, способные подавлять его инициативу, приводить к апатии и унынию. Загадкой остается предназначение топаза, к которому сангвиники относятся с некоторым подозрением. В Индии и Тибете этот камень известен как полноправный конкурент рубина и предназначен для головных уборов султанов, шахов, шейхов и иных коронованных особ. Йоги Востока получают через топаз сокровенные знания Космоса, тибетские лекари врачуют им наисложнейшие заболевания, включая проказу, болезни дыхательных органов. На мой взгляд, этот камень служит своеобразным прижигающим средством, так как имеет мощную энергетическую основу, доселе непонятную современным исследователям.

Итак, люди Воздуха четко очертили свой «каменный» спектр, отдав предпочтение прозрачным и светло-бежевым расцветкам, подчеркивая быстротечность жизни и не зацикливаясь ни на одном цвете. Что ж, наша атмосфера тоже бесцветна, но ведь только здесь мы можем наблюдать великолепие семи цветов радуги...

*Сергей ОНУПРИЕНКО.*



*Радавая Галіна **Машынская** не шкадуе аб зробленым выбары — служыць у арміі Рэспублікі Беларусь. І па страявой падрыхтоўцы, і на стрэльбішчы яна атрымлівае выдатныя адзнакі. І форма вельмі да твару связістцы войск ППА. Са сваімі статутнымі і службовымі абавязкамі Галіна спраўляецца не горш за іншых мужчын.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*




## САЛАТ ПО-ТУРЕЦКИ

2 кг баклажанов очистить, нарезать, добавить 2 кг крупно нарезанных неперезрелых помидоров, 1 кг болгарского перца, 1 кг лука, 1—2 стручка горького перца. На дно кастрюли положить лук, помидоры, баклажаны, перец, залить тремя стаканами растительного масла, посолить по вкусу, тушить 40 минут (до готовности баклажанов). После этого можно подать к столу, а можно переложить в чистую посуду и законсервировать. Выход готовой продукции — 6 литров.

## ФАРШИРОВАННЫЕ КАБАЧКИ

Кабачки очистить от кожуры, нарезать поперечно на ломтики высотой 6—7 см, ложкой вынуть середину, оставив донышко, наполнить фаршем, приготовленным заранее, залить сверху томатом, поджаренным с луком, запекать в духовке открытыми до готовности. Подать к столу, посыпав зеленью петрушки.

Фарш — мясной, поджаренный с кореньями пастернака и приправленный черным молотым перцем.

## СВЕКЛА С ЧЕСНОКОМ

Четыре небольших вареных свеклы чистят, натирают на крупной терке, солят, присыпают перцем, добавляют 3—4 зубчика растертого чеснока, заливают майонезом и хорошо перемешивают.

## САЛАТ ИЗ СЫРОЙ СВЕКЛЫ

Свеклу натирают на мелкой терке, солят, добавляют лук, обжаренный с томатом, или майонез. Можно добавить и измельченные орехи.

## САЛАТ ИЗ МОРКОВИ С ХРЕНОМ

Сырую морковь натереть тонкой стружкой, добавить тертый хрен, сметану, соль и сахар. На 100 г моркови — 1 ст.ложка хрена, 1 чайн.ложка сметаны, соль и сахар по вкусу.

## ЦВЕТНАЯ КАПУСТА

Отварить в подсоленной воде до готовности, разобрать на соцветия, обжарить в большом количестве сливочного масла. При желании можно залить яйцами.

## САЛАТ ОРИГИНАЛЬНЫЙ

Крапиву, лебеду мелко нарубить, добавить свежие помидоры и натертую на крупной терке сырую свеклу, заправить солью, перцем и полить майонезом.

## ЕВРЕЙСКИЙ САЛАТ

Морковь — 1 кг, лук — 1 кг, растительное масло — 1 стакан, рыбные консервы — 2 банки. Морковь натереть на крупной терке, полить растительным маслом и тушить до тех пор, пока не изменится цвет. Потом добавить лук, предварительно мелко нарезанный. Тушить на медленном огне, пока масса не станет однородной. Посолить по вкусу, долить полстакана 3-процентного уксуса, еще немного потушить. Охладить, перемешать с рыбными консервами (лучше — с “Килькой в томатном соусе”) и подавать к столу.




### 18 жніўня, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**

17.30. Навіны.
17.40. Фільм-канцэрт.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Гаспадар.
19.40. Фільм-канцэрт.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. “Маё каханне, мой смутак”. Тэлесерыял.
22.35. Пад купалам Сусвету.
22.45. НІКа.
23.00. “Крок”. Студыя “Формула”.
0.20. Надвор'е.

**Канал “Астанкіна”**

15.00, 17.00, 20.00, 23.20. Навіны.
15.25. “Вайна гобатаў”. Мультфільм.
15.50. Мульцітролія.
16.05. ...Да 16 і старэйшым.
16.40. Планета. Пані ўласнасць.
17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. “Дзікая ружа”.
18.50. Палацавыя тайны Кабула.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато “Мільён”.
21.30. “Пачуй маю песню” (Вялікабрытанія).
23.30. Максіма.

**Канал “Расія”**

15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
15.20. Студыя “Рост”.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Панове-таварышы.
16.20. Новая лінія.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. “Санта-Барбара”.
20.25. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.30. Шостае пачуццё.
21.05. Сола.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Балет Санкт-Пецярбурга.
23.15. Арт-абстрэл.

**Санкт-Пецярбург**

18.30, 21.45. Інфарм ТБ.
18.55. Парады садаводам.
19.05. “Іван Васільевіч мяняе прафесію”. Маст.фільм.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. О-ля-ля!
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Па ўсёй Расіі.
22.00. Спорт, спорт, спорт...
22.10. Ваш стыль.
22.20. Вячэрні звон. Музычны канал.

### 19 жніўня, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. Фільм-канцэрт.
9.20. “Маё каханне, мой смутак”.
10.20. “Крок”. “Карамболь”.
10.50. Рок-айленд-шоу.
11.50. Музыка Мравінскага.
13.15. “Гімназісты”. Д/ф.
14.05. “Кахай і вер” (Індыя).
16.25. “Следства вядуць Калабкі”. Мультфільм.
16.40. Міжнародныя спаборніцтвы па канкуру. 2-гі этап.
17.30. Навіны.
17.40. Мультфільмы.
18.00. Эканамікст.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Рэпартаж са святкавання Дня металурга ў г.Жлобіне.
20.00. Кінанарыс.
20.15. “Тэлесябрына”.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. “Паны авантурысты”. Маст.фільм.
23.05. НІКа.
23.20. Ірына Мірашнічэнка і яе сябры.
0.20. Пад купалам Сусвету.
0.30. Надвор'е.

**Канал “Астанкіна”**

5.30. Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы “Раніца”.
8.00. Новы старт.
8.15. Сарока.
8.40. “Дзікая ружа”.
9.05. “Кропля”.
9.15. Дапамажы сабе сам.
9.45. Бізнес-клас.
15.25. “Пра Чырвоную Шапачку”. 2-я серыя.
16.35. “Слон і пеначка”.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Чалавек і закон.
17.55, 20.35. Надвор'е.
18.00. “Тры дні і тры гады”. Д/ф.
18.25. “Дзікая ружа”.
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. “На двайны паварот” (Францыя).
22.25. Палітбюро.
23.10. Музагляд.
23.50. Аўта-шоу.
0.05. Праграма “Х”.

**Канал “Расія”**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Рэтра-шлягер.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Паехалі.
8.40. Кліп-антракт. Н.Штурм.
8.45. “Санта-Барбара”.
9.35. Тэлегазета.
9.40. “Таганскае танга”.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. “Глядзі на мяне, як на роўню”.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. “Зноў маладыя”. 2-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. “У даўніну і цяпер”. Д/ф.
18.05. “Ой, куды мы заляцелі?”.
18.25. “Калі мы былі маладыя...”.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. “Санта-Барбара”.
20.30. “Ля возера. Праз тры гады”.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. “Прамая трансляцыя”.

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інфарм-ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. “Нямецкая хваля”.
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. Спатканне з Тэрпсіхорай.
14.45. “Іван Васільевіч мяняе прафесію”. Маст.фільм.
16.20. Тэлевізійны фільм.
17.00. Мультфільм з субцітрамі.
18.10. “Лясныя казкі”.
18.55. Мультфільм для дарослых.
19.05. “Кінфія”.
20.00. “Драма ў цырульні”. Кароткаметражны фільм.
20.15. “Ад першай асобы”. Ю.Болдыраў.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. Футбол. Кубак “19 жніўня”.
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спорт, спорт, спорт...
22.10. Ваш стыль.
22.20. “Ямы” (Францыя).

### 8 канал

**18 августа, четверг**

18.00. Многосерийный фильм для детей “Карусель”.
18.25. Мультсериал “Вольтрон”.
18.50. Телесериал “Лабиринт правосудия”: “Ложь”.
19.40. Мультипликационный фильм.
20.10. Цирковое представление (Китай).
20.40. “Свята ў паветры”.
20.50. “Как дела, старина?”.
21.20. БАНТ. Репортаж.
21.30. Детектив... Боевик... Художественный фильм.

**19 августа, пятница**

18.00. Многосерийный фильм для детей “Карусель”.
18.25. Кубок “Порше”. Великобритания.
18.35. Мультсериал “Вольтрон”.
19.00. “Битва при Кулодене” из цикла “Исторические сражения” (повтор).
20.00. Мультипликационный фильм.
20.30. БАНТ. Репортаж.
20.40. Foxy music (повтор).
21.30. Художественный фильм.

# Сям"я артыстаў-самародкаў

Калі выступае сямейны ансамбль Гаўрыльчыцкага сельскага Дома культуры Салігорскага раёна, нярэдка цяжка аддзяліць удзельнікаў самадзейнасці ад тых, хто прыйшоў іх паслухаць. Усе ўключаюцца ў актыўную “работу”. Вытлумачыць гэта вельмі проста. Цеплыня, цудоўны настрой, якія прыносяць у залу артысты, застаюцца да самага апошняга акорда канцэрта. У гэтым сямейным ансамблі 12 чалавек. Кіруе ім культработнік Валерый Мікалаевіч Бойка, які хораша спявае, віртуозна грае на баяне і гармоніку. Старэйшаму артысту ансамбля — 51 год, а самаму малодшаму — 23. І па прафесіях яны розныя: Святлана Бойка — заатэхнік, Марыя Бойка — работнік аптэкі, Вольга Бойка — прыбіральшчыца, Сцяпан Бойка — педагог, Мікалай Бойка — мастацкі кіраўнік СДК. Галіна Рыжко загадвае бібліятэкай, а Ганна Хілько — дзіцячым садам. Уладзімір Коўцік — вадзіцель калгаса. Усе яны аднолькава любяць песню.

Першы свой канцэрт гаўрыльчыцкія артысты далі ў 1990 годзе.

— У іх выкананні тады зіхацела сапраўдная народная творчасць, з яе незвычайнымі мелодыямі, — узгадвае загадчык аддзела культуры райвыканкома М.Далгін. Калектыў дэманстраваў сваё майстэрства ў многіх вёсках Салігоршчыны, неаднаразова яго запісвалі на Беларускім тэлебачанні і радыё. У раёне ён лічыцца адным з лепшых ансамбляў.

У рэпертуары гэтага калектыву каля сарака народных твораў: вакальна-харавыя, інструментальныя, харэаграфічныя. Усе яны працягваюць жыць, звязваючы наш час з далёкім мінулым. Яны нясуць людзям добрае, прыгожае, вечнае.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Спорт

## У ПЕРШАЙ ДЗЕСЯТЦЫ

Апублікаваны спіс лепшых тэнісістак свету. Яго па-ранейшаму ўзначальвае Штэфі Граф з Германіі. Мінчанка Наталля Зверава ўвайшла ў першую дзесятку. У сусветнай класіфікацыі яна займае дзявятае месца.

## ЛІДЗІРУЮЦЬ ГОСЦІ З РАСІІ

Каля дваццаці гадоў у Наваполацку будаваўся Палац спорту і культуры. І вось ён нарэшце расчыніў дзверы.

Да ўрачыстага адкрыцця гэтага прыгожага збудавання быў прымеркаваны першы этап міжнароднага турніру Федэрацыі хакея Беларусі на прыз мінскага арэнднага прадпрыемства “Крыніца”.

З чатырох каманд, якія выйшлі на лёд, найбольш паспяхова ў Наваполацку выступілі госці з Расіі — хакеісты “Комінафта”. Яны выйгралі ўсе тры матчы, забіўшы 24 шайбы і прапусціўшы толькі шэсць. На другім месцы з чатырма ачкамі гродзенскі “Нёман”. Два ачкі мае наваполацкі “Палімір”, а мінскае “Юнацтва” пацярпела тры паражэнні.

Другі этап гэтага турніру пройдзе ў Гродне 10-12 верасня. Да гэтага зборная Беларусі з 23 па 27 жніўня выступіць у славацкім Папрадзе на міжнародным турніры “Кубак Татр-94", дзе акрамя гаспадароў будуць удзельнічаць таксама хакеісты Нарвегіі, Францыі, Польшчы.

## КУБАК У ГАСПАДАРОЎ

400-годдзю з дня заснавання мястэчка Будслаў, што на Мядзельшчыне, быў прысвечаны футбольны турнір, які арганізаваў раённы спорткамітэт.

У паўфінале “Кубка Будслава” гаспадары поля перамаглі каманду “Нарачпрафбуд” — 7:1, а футбалісты ПМК-66 з лікам 7:1 нанеслі паражэнне камандзе з Ілава.

Фінальны матч спачатку складваўся на карысць каманды ПМК-66, якая першая забіла два мячы. Гэтага аказалася мала для перамогі. Будслаўцы не толькі ўстанавілі раўнавагу, але і выйшлі наперад — 4:2, заваяваўшы кубак.

## “УРАДЖАЙ” НА МЕДАЛІ

Вадналыжнікі чатырнаццаці краін прынялі ўдзел у спаборніцтвах за Кубак свету, якія праходзілі ў аўстрыйскім Фельдкірхене. Зборная Беларусі заваявала 4 залатыя, 3 сярэбраныя і 2 бронзавыя ўзнагароды. Пераможцай спаборніцтваў сярод жанчын стала мінчанка Алеся Паўлава.

*/Наш кар./.*



**Калектыў абласнога фінансавага ўпраўлення выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму эканамісту Таццяне Іванаўне Ціткінай з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.**

**Калектыў упраўлення па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва аблвыканкома выказвае спачуванне вядучаму спецыялісту аддзела прававога забеспячэння працы, сацыяльнай абароны і ўзроўню жыцця насельніцтва Зінаідзе Аксёнаўне ЗАЧАТКА з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

Наш адрас:
220013, гор.Мінск,
вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9,
рэдакцыя газеты “Мінская праўда”.

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем —68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК —
Мінскі абласны Савет дэпутатаў,
220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
“Мінская праўда”— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.



Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе “Мінскай праўды”.
Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”.
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 16550. Індэкс 63923. Зак. №86.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12